Пакуль горад захоўвае хоць адну адмету сваёй маладосці, ён не скарыўся ўзросту. Таму і выглядае Нясвіж юнаком, нягледзячы на стагоддзі.

З гэткаю супярэчлівасцю мусіш такі згадзіцца і, уважаны неспадзяванай высновай, пачынаеш лепш узірацца ў абрысы ацалелай тут старасвеччыны, якая — цур, зноў жа парадокс! — сведчыць пра пару малалецтва і сталасці горада.

Жыхары Нясвіжа заўсёды любілі казаць — трохі з гумарам, трохі з іроніяй: “У Нясвіжы як у Парыжы”.

Я не быў у Парыжы, таму зрэдзьчас еду ў Нясвіж — дабраць нязбытных уражанняў, адчуць цеплатворную плынь еўрапейскага часу і... быццам скінуць з сябе вагу стагоддзяў.

Калі першым разам трапляеш сюды і калі твая душа прагне прыемных эмоцый, падбадзёрыцца ўражаннямі нязведанага, зазвычай лёгка, без экскурсавода зарыентуешся, куды павярнуць, каб патрапіць у самае сэрца Нясвіжа. І замак, і задумлівы парк, і люстэркі азёраў прыцягваюць, як магніт, як праява.

З першага кроку жывеш прадчуваннем цуду. Хроніка Нясвіжа тоіць у сабе незлічонае мноства падзей, здарэнняў, сведчанняў, фактаў. Можа, таму і гістарычныя вулкі ў атачэнні знакамітых муроў, і сцежкі слыннага парку, падуладныя ўражліваму слыху, ажываюць згукамі даўніны, а насустрач выходзяць, нібы павітацца з табою, постаці-здані... Тысячы таямніц чакаюць людскіх дакрананняў да гісторыі. Тысячы лампадак гатовыя ўспыхнуць у памяці нашчадкаў.

Нясвіж — адно з самых старажытных паселішчаў на Беларусі. Летапісны ўспамін пра *нясвіжскага князя Юрыя*, які ў 1224 годзе быў забіты на рацэ Калцы ў бітве з татарамі, дае падстáвы меркаваць, што Нясвіж як цэнтр удзельнага княства існаваў ужо на пачатку XIII стагоддзя.

Блізу 1496 года горад перайшоў ад князёў Нясвіжскіх у прыватнае ўладаранне слыннага роду *Кішкаў*. Дзесьці ў 1533 годзе, як пішуць гістарычныя кнігі, Ганна Кішка ідзе замуж за Івана Мікалаевіча *Радзівіла (Барадатага)*. Гэта адна з загалоўных фігур у хроніцы Нясвіжа: горад пераходзіць да роду Радзівілаў і робіцца цэнтрам іхняга казачна багатага двара.

З удзельнае сталіцы Нясвіж ператвараецца ў сталіцу Радзівілаў. Тут была іх галоўная рэзідэнцыя. Каласальныя сродкі асядалі менавіта тут, куды, па словах гісторыка Адама Кіркора, сцякалася плойма народу, калі сам княжацкі двор налічваў тысячы людзей, што складалі прыдворны штат князя, калі на паляванне выязджалі з князем сотні дзве-тры толькі абавязковых паляўнічых, не лічачы гасцей, якія з'язджаліся адусюль... Першы з Радзівілаў уладар Нясвіжа Іван Барадаты пабудаваў крэпасць і абнёс горад валам. Ягоны сын *Мікалай Чорны* ў 1547 годзе ўзнёс на старажытным гарадзішчы прыгожы, пераважна драўляны замак. Будаўніцтва мураванага, больш выразнага ў сваёй непрыступнасці палаца пачалося пазней, у 1583 годзе, падчас княжання *Мікалая Сіроткі* — сына і наступніка Мікалая Чорнага.

З кожным годам горад набываў новае аблічча, княжацкі замак паступова лепшыўся ды багацеў, падтрымліваўся ў бляску і моцы. Нясвіжу даваліся розныя ільготы, якія спрыялі, як сведчыць А. Кіркор, пашырэнню гандлёва-пра-

мысловай дзейнасці. Горад тым часам падаваў прыклады і ў пашырэнні асветніцтва. *Сымон Будны* друкуе тут у 1562 годзе "Катэхізіс" — першую кнігу на беларускай мове. У 1586 годзе Нясвіж атрымлівае магдэбургскае права і свой герб.

Зведаў Нясвіж і скрушныя часіны. 1654, 1706, 1768, 1772, 1792, 1812, 1919, 1939, 1941 — трагічныя вехі ў летазлічэнні горада, з якімі звязаны шматлікія бедствы: ваеннае рабаўніцтва, знішчэнне і вываз скарбаў, разбурэнні і гвалт. Мінімізаваць пагібельныя наступствы, аднаўляць веліч фасадаў, вяртаць інтэр'ерам бляск і раскошу за кароткі час дазваляла толькі заможнасць Радзівілаў, іх нязломнае імкненне да росквіту сваёй сталіцы. Тое, што прыжывалася і квітнела ў Нясвіжы, яскрава сведчыць пра таленавіты магнацкі род з цэлай плеядай асоб, якія ўсяляк рупіліся ператварыць свет багацця ў свет прыгоства, надаючы сваёй ардынацыі славу культурнага асяродка еўрапейскага кшталту.

"Маленькі Парыж" здзіўляў свет, бадай, не менш, чым вялікі. Нясвіж называлі "некаранаванай сталіцай" Вялікага княства Літоўскага, што мела пад сабою дастаткова цвёрды грунт. Зноў жа прыгадаем гісторыка Кіркора, які пісаў: "Нясвіж сваім багаццем, бляскам, непаўторнасцю, назапашанай разнастайнасцю выбітных твораў навукі і мастацтва не толькі быў першым у цэлай Літоўскай Русі, але пераўзыходзіў у многім шматлікія другарадныя сталіцы... Не разгулам, дзівацтвамі ды ўсялякімі празмернасцямі барскага жыцця... — але сваім эстэтычным бокам, сваімі рэдкімі зборамі, кабінетамі, бібліятэкай, архівам, карціннаю галерэяй, тэатрам і г.д., у рэшце рэшт самім жыццём, у якім паміж розных барскіх задумак было шмат пробліскаў вытанчанасці, гуманнасці, вышэйшых поглядаў і памкненняў, нарэшце нават самаадданасці".

Праўда, далей, пасля такога апафеоза, цяжка ўспрымаць заўвагу-канстатацыю іншага аўтара, што... "нічога не засталося ад ранейшае велічы Нясвіжа", бо сведчанню тым часам за сотню гадоў. Кіркора, аднак, апярэдзіў Уладзіслаў Сыракомля — выдатны знаўца радзівілаўскай хронікі — са сваім пачуццём шкадавання: "Тут усё створанае імі (князямі — *В.Д.*) — у разваленым выглядзе... Мінуўшчына з асаблівасцямі свайго побыту адышла, адляцела, як гістарычны сон, будучыня дзесьці за заслонай наканавання, а цяперашняя хвіля не мае ніякай прывабнасці" ("Вандроўкі па маіх былых ваколіцах").

Чым жа, якім зместам павінна напоўніцца "цяперашняя хвіля" у нашых нястомных блуканнях па нешматлікіх рэшт-

ках “ранейшае велічы”? XX стагоддзе, як вядома, не ашчаджала, а ўсё больш забірала. Ахвярай знешніх захопніцкіх нашэсцяў, а найперш агульнага бяспамяцтва падчас пануючай бездухоўнай ідэалогіі, сталіся дзесяткі, сотні гістарычных помнікаў. Малох варварскага знішчэння не спыняўся да 70-ых гадоў.

І ўсё ж “маленькаму Парыжу” наканавана было выжыць, збольшага захаваць свой ранейшы выгляд. Зберагліся будынкі, ацалеў ландшафт. Гораду пашанцавала, што да ягонага старажытнага цэнтра не чаплялася плойма перабудоўшчыкаў. *Унікум у еўрапейскай практыцы урбанізму* — такім бачаць цэнтр Нясвіжа адмыслоўцы, аргументуючы гэткую культурную значнасць тым, што ў Нясвіжы ці не ў самы кароткі тэрмін (апошняя чвэрць XVI ст.) была рэалізавана *раннебарочная схема “ідэальнага” горада.*

Гукі аргана фарнага касцёла як бы вяртаюць з глыбіні часу імя самога Бернардоні — геніяльнага архітэктара-італійца, які на працягу дзесяцігоддзя (1584—1593) стварыў гэты архітэктурны шэдэўр высілкамі мясцовых майстроў-умельцаў.

Першы на беларускай зямлі праграмны будынак у стылі барока пасля першага ў далекаватай (геаграфічна) і разам з тым зусім недалёкай (уважаючы выкшталцоныя акалічнасці) Італіі.

Убранне храма ўрачыста шыкоўнае. Зачароўвае, цешыць вока падкупальны роспіс, багаццем разьбы, архітэктурнай пластыкі ўражваюць незлічоныя кампазіцыі інтэр’ера. А ўнізе, у магільным родавам склепе, захоўваюцца мошчы князёў Радзівілаў.

Барочнасць мураваных пабудоў Нясвіжа (а гэта не толькі замак і фара, але і *Слуцкая брама,* і *вежа кляштара бенедыкцінак,* і *“Дом на рынку”)* нясе ў сабе адмету эпохі, у архітэктуры барока люстраваліся разнастайныя грамадскія настроі, асаблівасці інтэлектуальнага жыцця.

Прыкметы жыццярадаснага, і разам з тым інтэлектуальнага бытавання гаспадароў радзівілаўскай сталіцы пацвярджаюць, што стыль барока быў тут найбольш арганічны. Нясвіж здзіўляў і паланіў. Амаль сем дзесяцігоддзяў у замку ставіў спектаклі *адзін з першых на Беларусі тэатраў.* Горад стаў месцам прафесійнай падрыхтоўкі драматычных акцёраў, музыкантаў, спевакоў, харыстаў. Сцэнічную навуку вучні спасцігалі і за мяжой. Перад чыннымі наведвальнікамі двара замак гасцінна расчыняў дзверы ў багатыя, густоўна ўбраныя залы з розным дзівосным начыннем — Каралеўскую, Гетман-

скую, Мармуровую, Паляўнічую ды іншыя. Каля тысячы партрэтаў налічвала карцінная галерэя, вялікі збор знакамітых *слуцкіх паясоў* месціўся ў Гетманскай зале. Мясцовую бібліятэку "упрыгожвалі" не толькі кнігі — два дзесяткі тысяч тамоў, старадрукі, рукапісы, але і бюсты старажытных філосафаў, выраблены з *фаянсу* на мясцовай мануфактуры ў мястэчку Свержань.

Нясвіж вядомы і як месца стварэння ўзораў *ліцейнага мастацтва* — на жаль, больш за дзесяць гармат, адлітых пры канцы XVI — на пачатку XVII стст., багата і па-мастацку аздобленых, аддалі сваю славу Варшаве, Стакгольму, Санкт-Пецярбургу. Затое застаўся на сваім месцы *стогадовы парк*, дзе толькі аднаго клёну налічваецца каля дзесятка парод. Захавалася і першае дрэва — магутная 200-гадовая канадская таполя ў тры абхваты. Панарама Нясвіжа не выглядала б такой падвянечна-чароўнай, калі б не люстэркі азёраў, у якіх адбіваюцца ярусы дрэў, архітэктура муроў і нават само паветра, сатканае з таямніц часу.

Але які б прывабны ні быў Нясвіж, апрануты ў строі багатай гісторыі ды культурнай спадчыны, ён не пазбягаў прымераць і сучасны строй духоўных традыцый з чыннае ласкі сваіх прыхільных жыхароў. Найперш прыгадваецца імя мастака Міхала Сеўрука, які тут жыў і працаваў да скону, здолеў і падчас таталітарнай ідэалогіі рэалізаваць добрую школу жывапісу, пакінуць пасля сябе творы, вартыя Нясвіжа. Другое імя — Паўлюка Пранузы — дапаўняе вобраз горада прысутнасцю паэтычнае музы. Аднак было б дзіўна абмяжоўваць наша ўяўленне гэтай парай імёнаў, якія толькі дапаўняюць дзесяткі іншых — як папярэднікаў, так і сучаснікаў. Зрэшты, у Нясвіжы ці не кожны другі жыхар — мастак, паэт, творца.

Нясвіж сілкуе сваёй творчай энергіяй не адно сваіх жыхароў, але ўсіх, хто едзе сюды дакрануцца да спадчыны, пабыць сам-насам з красамоўнай гісторыяй. Тут натхнёна працавалі паэты, мастакі, майстры фатаграфіі. З ліку апошніх журналіст, фотамастак *Валянцін Ждановіч* (дарэчы, гэтае ж прозвішча сустракаем сярод прыдворных архітэктараў Радзівілаў). З яго рук і прымае шаноўны чытач гэты альбом. На вялікі жаль, пасля смерці аўтара...

У Нясвіжа наканаваная годная будучыня. Горад, які выстаяў перад стыхіяй разбурэнняў, збярог, быццам чароўнае святло, большую частку сваёй дасканаласці, гэтым самым заслужыў у нашчадкаў такую пашану, якую маюць хіба што святыні. Горад-сад прычакаў сваёй вясны, хай сабе

яшчэ вельмі кволай, няшчодрай на цяпло і ласку, але ўжо незваротнай у руху да абнаўлення. Немалыя сумы Нясвіжу выдаткоўвае дзяржаўная казна.

Быццам ластаўкі на ўлонні майскага неба, з'явіліся, прыляцелі на сваю гістарычную радзіму першыя прадстаўнікі родавага гнязда Радзівілаў. Тут створаны *нацыянальны гісторыка-культурны запаведнік "Нясвіж"*, які будзе ўяўляць сабой самавітую структуру музейнага тыпу. Мяркуецца зрабіць "маленькі Парыж" цэнтрам айчыннага ды міжнароднага турызму з цэлым шэрагам новаўтвораных аб'ектаў: галерэяй нацыянальнага мастацтва, тэатрам драмы, оперы, балета, архівам, бібліятэкай, музейнымі экспазіцыямі.

Бачу той час, калі над Нясвіжам зноў прагучыць урачысты салют, і снапкі агнёў расквецяць начное неба. "Хай будуць поўныя чашы нашага багатага вінаградніку", — успомнім мы словы на гармаце з нясвіжскай ліцейні. Вядома ж, гэта будзе гістарычны салют. Горад-сад адзначыць чарговае свята свайго нараджэння. Крыху менш як праз тры дзесяцігоддзі яму споўніцца восемсот.

*Валерый Дранчук*

Па старой дарозе Гарадзея — Нясвіж знаходзіцца незвычайны помнік прыроды: дуб і сасна стаяць абняўшыся. Помнік аберагаецца дзяржавай.

Гравюра Тамаша Макоўскага. Пачатак XVII ст. План-панарама Нясвіжа.






Паштоўка з агульным відам Нясвіжа. Пачатак XX ст.

Слуцкая брама. 1690.
Помнік архітэктуры барока.



Слуцкая брама была адрэстаўрыравана ў 1760 годзе на дарозе-дамбе ўздоўж возера, якая вяла ў горад з боку Слуцкага тракту. Кожны, хто ехаў альбо ішоў у Нясвіж, павінен быў плаціць пошліну. Трапіць у горад, абмінуўшы браму, было практычна немагчыма.

На першым паверсе знаходзіліся памяшканні для варты, на другім — капліца. Пасля рэстаўрацыі ў 1970-ых гадах брама набыла ранейшы выгляд. Аднавілі дубовыя дзверы, каваны балкон з боку ратушы і шматколерны вітраж. Дах накрылі чырвонай чарапіцай.

Касцёл і кляштар бенедыкцінак, помнік архітэктуры барока. Пабудаваны ў 1590—1596 гадах па фундацыі жонкі Радзівіла Сіроткі Яўхіміі Радзівіл.





Сучасныя даследчыкі лічаць, што кляштар бенедыкцінак быў адным з цікавейшых помнікаў архітэктуры горада. Першай ігуменняй яго была Ганна Святаслаўская. Нямала зрабіла для ўпарадкавання кляштара пляменніца яго фундатараў Хрысціна Яўхімія Радзівіл. У 1876 годзе маёмасць кляштара — сярэбраныя, пазалочаныя рэчы — была перададзена ў Віленскі кафедральны касцёл. Частку літургічных прадметаў перанеслі ў фарны касцёл.

Такімі цудоўнымі вырабамі з урэцкага шкла карысталіся і ў манастыры бенедыкцінак. Мануфактуры ва Урэччы і Налібоках (цяпер Любанскі і Стаўбцоўскі раёны) заснавала ў 1737 годзе Ганна Радзівіл. Сталовы посуд з фарфору, шкла і крышталю, падсвечнікі, жырандолі, люстры, медальёны, скульптуры і шмат што іншае аздаблялася з выключным майстэрствам гравіроўкай, разьбой, золатам, фарбамі. І сёння гэтыя унікальныя рэчы ўпрыгожваюць залы многіх музеяў свету.

Драўляныя вароты бенедыкцінскага кляштара з двух бакоў аздоблены каванымі металічнымі накладкамі, прычым іх малюнак на вонкавым і ўнутраных баках розны. Кляштар утвараў разам з фарным касцёлам не толькі адзіны архітэктурны комплекс, але меў і абарончае значэнне. Ад кляштара захаваліся вароты, жылыя і гаспадарчыя карпусы, касцёл.



Касцёл — першая езуіцкая ў стылі барока пабудова на тэрыторыі Рэчы Паспалітай. Пасля скасавання ордэна езуітаў у 1773 годзе касцёл стаў называцца фарным.



У 1993 годзе фарны касцёл адзначаў сваё чатырохсотгоддзе. На працягу ўсяго гэтага часу ён не спазнаў вялікіх змен. У гэтым пераконваешся, калі параўноўваеш цяперашні знешні выгляд касцёла з выявай на гравюры Тамаша Макоўскага, зробленай у пачатку XVII ст.

Пабудаваны па праекту італьянца Яна Марыі Бернардоні, фарны касцёл стаў лепшым творам гэтага архітэктара ў Еўропе.

Бернардоні ўдала скарыстаў асаблівасці мясцовасці: раўнінны рэльеф, забалочанасць, лясістасць.

Велічны храм горада, увенчаны высокім купалам са светлавым ліхтаром, узняўся над наваколлем. У плане ён уяўляе сабою крыж. Цэнтральны высокі неф, ніжэйшыя бакавыя, алтарная апсіда, трансепт, купал, дзве бакавыя капліцкі — часткі, з якіх складаецца прасторавая маса гмаху.

Касцёл, напэўна, першае цаглянае збудаванне ў Беларусі, фасады якога былі атынкаваны і пабелены. Упершыню тут былі выкарыстаны статуі святых у нішах фасада.

Стыль роспісаў храма адпавядае часу іх стварэння. Гэта позняе барока з элементамі класіцызму. Жывапіс пачынаецца з простых манахромных кампазіцый на пілонах і пераходзіць у паліхромны роспіс цыліндрычнага скляпення галоўнага нефа, трансепта, купала, барабана, скляпенняў бакавых нефаў. Усяго налічваецца звыш 40 кампазіцый.

Першапачатковы роспіс інтэр'ераў не захаваўся. Фрэскі, што дайшлі да нашых дзён, напісаў мастак Ксаверы Дамінік Гескі. Роспісы касцёла звязаны з тэмай вялікай алтарнай карціны "Тайная вячэра". У цэнтры яе круглы стол, накрыты светла-зялёным абрусам. Злева на пярэднім плане сядзіць Юда, які трымае мяшэчак з грашыма.

Роспісы нясвіжскага касцёла з'яўляюцца важным этапам у гісторыі манументальнага мастацтва на Беларусі.

У касцёле захоўваюцца 102 саркафагі членаў сям'і Радзівілаў. Склеп у Нясвіжы — адзіны ва Усходняй Еўропе некропаль гістарычнай сям'і.




Уладзіслаў Сыракомля (Людвік Кандратовіч 1823—1862 гг.) — вядомы беларускі і польскі паэт-дэмакрат.

Каля драўляных спавядальняў, на сцяне знаходзіцца мармуровая пліта з партрэтам Уладзіслава Сыракомлі, які працаваў у канцылярыі ўпраўляючага радзівілаўскімі маёнткамі.

Помнік створаны паклоннікамі таленту Сыракомлі ў 1902 годзе, калі споўнілася 40 гадоў з дня смерці паэта (гэтая дата і пазначана на пліце).

Роспісы алтара і апсіды.
На наступных старонках — роспісы купала і трансепта.



Над алтаром, на прыгожай, з каляровага мармуру труне — белая статуя заплаканай жанчыны. Гэта надмагільны помнік Канстанцыі Радзівіл, па мужу Чудоўскай.





Помнік Крыштофу Мікалаю (сыну Мікалая Сіроткі), які памёр у шаснаццацігадовым узросце ў 1607 годзе ў Балоніі.

Фрагмент далматыкі. XVIII ст.
Арнат. XVIII ст.
Вырабы мясцовай вытворчасці.
*Фота Г. Ліхтаровіча*



Былая канцылярыя князёў Радзівілаў.
Цяпер тут музычная школа.





"Цыганскі" дом.


Вежа фарнага касцёла.

Сымон Будны — вучоны з еўрапейскім імем, прадаўжальнік традыцый Францішка Скарыны. Філосаф, гуманіст, асветнік, выдатны тэолаг, філолаг, гісторык, рэфарматар.







Сымон Будны — адзін з першадрукароў на Беларусі. У Нясвіжы разам з Л. Крыштоўскім і М. Кавячынскім заснаваў друкарню і выдаў у 1562 годзе "Катэхізіс" — першую кнігу на беларускай мове. У ёй Будны выступаў супраць каталіцызму, вельмі жадаў, каб родная мова знайшла заслужанае прызнанне ў грамадстве.

Сымон Будны адным з першых выступіў за роўнасць усіх саслоўяў перад законам, за ўсеагульную адукацыю, за свабоду слова, выкрываў тыранію, быў супраць раздачы зямлі і нават цэлых вёсак манастырам і касцёлам.

Злева — тагачасны шарж на Буднага.

→
Гэта месца можна назваць плошчай Сымона Буднага. Удалечыні — друкарня, якая носіць яго імя. Бронзавы помнік выдатнаму дзеячу эпохі Адраджэння ўстаноўлены 5 мая 1982 года (скульптар С. Гарбунова, архітэктар Ю. Казакоў).

"Дом на рынку" — унікальны ўзор гарадскога жылля першай паловы XVIII ст. з барочным фасадам. Падобнага збудавання ў Беларусі няма. Зараз — помнік рэспубліканскага значэння.

Цяпер "Дом на рынку" засланяюць дрэвы і яго цяжка сфатаграфаваць. Але зберагласся




старая паштоўка XX ст., якая захавала нам яго ранейшае аблічча.

Ратуша — адна з самых старажытных у Беларусі. Пабудавана пасля 1586 года, перабудавана ў 1752 годзе. Калісьці, пасля атрымання горадам магдэбургскага права, тут знаходзіўся гарадскі магістрат.

Вось як апісваў яе ў "Вандроўках па маіх былых ваколіцах" Уладзіслаў Сыракомля: "З іншых найбольш цікавых муроў Нясвіжа можна назваць гарадскую ратушу, высокая вежа якой колькі дзесяткаў гадоў узнімалася над іншымі вежамі горада, але, пашкоджаная пажарам 1836 года, была няўдала прыкрыта нечым падобным на каптурык дашкам, і замест колішняй велічнасці займела цяпер смешны выгляд..."

Парк жыве, гарыць і дыша.
Як каралі на шнурах,
Скрозь дарожак ззяе-пыша
І калышацца ў агнях
Срэбра лісцяў на галінках
Старасвецкіх ліп, дубоў.
То — маёўка-вечарынка,
То — банкет-гульня паноў.
І спакойна, ціха, роўна
Блеск ільюць свой ліхтары
І сплятаюць так чароўна
Святло-цені на кары
Комляў тоўстых, нерухомых,
На галінках, на суках,
Бы застыў тут веснік громаў,
Блеск маланак на камлях...

Якуб Колас.
*З паэмы "Сымон-музыка"*

Ні адзін беларускі горад не мае такіх вялікіх зялёных масіваў, такіх маляўнічых азёраў, што, як каралі, кінуты між жылых раёнаў. У іх гарманічным спалучэнні — і прыгажосць, і ўтульнасць, і зручнасць.

Старому парку больш за сто гадоў. На памятным камені каля аднаго з дрэў можна прачытаць: “На ўсёй тэрыторыі парка ў момант яго закладкі знаходзілася толькі гэтая таполя”. Потым былі высаджаны самыя розныя дрэвы — клён цукровы, бэз амурскі, елка карлікавая, ліпы амерыканскія, рэдкія канадскія таполі і іншыя рэдкія пароды.

У апошні час парк рэстаўрыруецца. Захавалася вадасховішча, што напаўнялася са студні-крыніцы пад назвай “Студня Ундзіны”.

У парку ёсць яшчэ адзін камень з надпісам: "У гонар 25-годдзя закладкі парка Марыяй дэ Кастэлян, княгіняй Радзівіл, і у гонар упрыгожання навакольных мясцін за столькі ж гадоў гэты камень паставіў яе ўдзячны муж Антоні Радзівіл, ардынат Нясвіжскі".



У цэнтры Выставачнай паляны захавалася двухсотгадовая тапаля. Дыяметр яе ствала 2 метры 15 сантыметраў, акружнасць — больш як 7, вышыня — 32 метры. Каля яе ляжаць два памятныя камяні. На адным з іх высечаны словы аб трагедыі, што адбылася ў 1942 годзе. Тут фашысты расстралялі 1500 жыхароў горада. Тапаля стала сімвалічным помнікам усім ахвярам фашызму ў Нясвіжы.

Лесапарк "Альба" злучаецца з горадам з поўдня. Тут калісьці размяшчалася летняя рэзідэнцыя Радзівілаў — Альтана. Быў свой тэатр, шпіталь з аптэкай. На штучных вадасховішчах плавалі лебедзі.

У 1812 годзе ўсе збудаванні разбурылі. Засталіся толькі сажалкі і магутныя дубы таўшчынёй у 7 метраў ды самыя высокія ліпы.

Адзіночныя дрэвы, размешчаныя на роўным газоне, — характэрная рыса англійскага парку ў Нясвіжы. Ён і сёння вельмі падобны на англійскі пейзажны парк.

У цэнтры Крыжовай паляны ўзвышаецца гранітны абеліск, вакол яго — круглая пляцоўка. Вышыня абеліска — 8 метраў, шырыня пастамента — 2 метры. На граніце надпіс: "Марысін. 1898".



*Фота Ю. Захарава*

Добра захаваўся ўсходні ўваход у Марысін парк, які размяшчаўся калісьці ў балоцістай мясцовасці. Яго адметнай асаблівасцю з'яўляецца кампаноўка пасадак вялікімі групамі. Раней тут пераважалі каштоўныя дэкаратыўныя пароды.

Агульны выгляд замка
на старой гравюры Н. Орды.





Замак з боку Іванавай сажалкі.
Мастак С. Гольц.

Мост і ўязная брама замка.
Фотаздымак пачатку XX ст.



Замак быў заснаваны ў 1583 годзе князем Радзівілам Сіроткам на месцы былога драўлянага.

Замак добра захаваўся да нашых дзён. У першапачатковым выглядзе яго можна ўбачыць на гравюры Тамаша Макоўскага. Спачатку ў будаўніцтве ўдзельнічаў італьянскі архітэктар Ян Марыя Бернардоні.

Замак быў абкружаны высокім земляным валам з бастыёнамі па вуглах, ровам, напоўненым вадой, шырокай дарогай. Вакол замка размяшчаліся азёры і каналы. Трапіць унутр яго можна было толькі па драўляным мосце. Калі набліжаўся вораг, мост разбіралі, замак ператвараўся ў непрыступную крэпасць.

Вежа з аркай праз уязную браму вядзе ва ўнутраны галоўны двор. Вароты замка былі з дазорнай вежай. Да варот траплялі па пад'ёмным мосце, да якога падыходзілі дзве пад'язныя дарогі.

Замак патанае ў зяляніне паркаў. Ён успрымаецца як гарманічнае архітэктурнае збудаванне.



На парадным двары замка знаходзіцца старая студня ў стылі барока з дэталямі мастацкай коўкі. На фотаздымку — яе фрагмент, як прыклад майстэрскага кавальства беларускіх умельцаў. Пры Радзівілах студняй карысталіся ў час аблогі замка. Яна цалам захавалася, але ваду з яе не бяруць.

Гэты куточак захаваўся такім,
як і пры Радзівілах.



Фасад замка. Фотаздымак пачатку XX ст.
Фрагмент каванага наверша ўваходнай брамы (фота).





Шырокая лесвіца вядзе на другі паверх.
Роспіс плафона ў вестыбюлі.



Камін у сталовай зале — сучасны выгляд і на старым фотаздымку пачатку XX ст.





Печ. Канец XVIII ст. (справа).
*Фота Г. Ліхтаровіча*

Унутраны выгляд замка вызначаўся багатай разьбой па дрэве, ляпнымі аздобамі, роспісам, шыкоўнымі камінамі. Паводле інвентару 1658 года, у замку было 12 залаў, з іх галоўнымі лічыліся Мармуровая, Каралеўская, Гетманская, Паляўнічая.

У карціннай галерэі было сабрана каля тысячы карцін, у тым ліку партрэты знакамітых людзей, фамільныя партрэты. Была поўная калекцыя рыцарскіх даспехаў, манускрыпты, вырабы з золата, жэмчугу, срэбра, рэдкіх камянёў вялікай мастацкай якасці і неймавернай цаны.

У палацы наладжваліся пышныя прыёмы гасцей. Так, каралю Станіславу Аўгусту была наладжана шыкоўная сустрэча, на якую князь Пане Каханку патраціў два мільёны злотых.

Слуцкія паясы выраблялі на мануфактуры Радзівілаў у XVIII — пачатку XIX стст.
*Фота Г. Ліхтаровіча*



Фрагменты слуцкіх паясоў.
Канец XVIII — пачатак XIX стст.
*Фота Г. Ліхтаровіча*



Станіслаў Казімір Радзівіл (1648—1690).
*Фота В. Бараноўскага*



Елізавета Радзівіл (нарад. у 1585).
*Фота В. Бараноўскага*

→

Катажына і Марыя Радзівіл. 1646.
Юрый Радзівіл (1480—1541).
*Фота В. Бараноўскага*



If there is something about a place that tells a visitor of its early days, that means the place does not grow old. This is exactly why the town of Nyasvizh looks so young despite its centuries-long history.

The Nyasvizhers have always said with a touch of humour and irony, "In Nyasvizh one feels like in Paris".

I have not been to Paris, so I tend to go to Nyasvizh now and again to make amends and feel the healing impact of the European beat and... drop down the load gained across the centuries.

Nyasvizh is one of the oldest settlements in Belarus. The chronicles tell the story of Prince Yuri from Nyasvizh who was killed in 1224 fighting Tatars on the Kalka river. This gives reason to assume that Nyasvizh was known as a centre of an independent principality already early in the 13th century.

Close to the year 1496, the Nyasvizh princes yielded the town to be privately owned by the well-known Kishka family. Around the year 1533 Ganna Kishka was married to Ivan Mikalai Radziwill (the Bearded) and the town went into possession of the Radziwills and became the centre of their fabulously rich estate. Thus Nyasvizh turned from an independent capital into the Radziwills-owned capital.

Radziwill the Bearded, who was the first owner of Nyasvizh, built a fortress in the town and erected a bank around it. In 1547, his son Mikola the Black put up a wooden castle on the site of the ancient town. Later, in 1583 when Mikalai the Orphan who was Mikalai the Black's son came to power, the construction of a more solid stone castle was started.

The town grew bigger and more beautiful yearly. The estate became richer, more powerful and glamorous. Various privileges were granted to the town authorities which enabled them to keep cultural activities in the town at a very high level. In 1562, Simon Budny printed here his "Catechism", the first book in the Belarusian language. In 1586, Nyasvizh was granted the Magdeburg Right and was allowed to have its own coat of arms.

There were hard times in the town's life, though. The years 1654, 1706, 1768, 1772, 1792, 1812, 1919, 1939, 1941 turned tragic pages in the town's history bringing it enormous sufferings. To restore the grandeur of facades and make the building interiors look as beautiful as before took a lot of the Radziwills' wealth and depended on the family's desire to bring prosperity to their capital. The fact that Nyasvizh prospered is a vivid proof that the talented magnate family with a great number of individual members who did their utmost to trans-

form the world of wealth into the world of beauty, bringing their estate to the cultural standard of a European town, deserves high praise.

"The little Paris" amazed the world almost as much as the big one. Nyasvizh was even called "the uncrowned capital" of the Great Lithuanian Principality.

And today, with what contents should we fill "the current gap" in our inexhaustible travels across the remains of what used to be "really grand". The 20th century is known to take away more than to offer. Hundreds of historical monuments have been destroyed as the result of perfidious invasions and, maybe, many more fell victim to the overall amnesia in the days when totally insane ideology reigned. The moloch of barbarous destruction did not stop until the seventies.

Yet, "the little Paris" managed to survive. The old buildings and peculiar terrain are still there. Luckily enough, those who were all set to rebuild everything did not touch the ancient town centre. Experts maintain that the central part of the town is unique from the point of view of the European urban construction. They have reason to say this because it is in Nyasvizh that the early baroque scheme of an "ideal" city was realized over a very short period of time (last quarter of the 16th century).

The sound of the organ playing in the central Catholic Church seems to call back the name of Bernardoni, a genius architect from Italy who, with the help of local craftsmen, built this masterpiece of architecture over a decade between 1584 and 1593. It was the first planned baroque style building on Belarusian soil. The Church's decor is solemnly gorgeous. The dome paintings are magnificent and the innumerable interior compositions, architectural patterns and carvings are highly impressive. And below, in the family burial crypt, the Radziwills' sacred remains are kept.

The stone-work buildings of Nyasvizh executed in baroque (in addition to the Castle and the Catholic Church there is the Slutsk Gate, the Benedictine Monastery tower and the house in the market place) bear the signs of those days — the baroque architecture reflected the many public trends, peculiarities of the intellectual life.

The signs of carefree and at the same time intellectual pastime of the Radziwill's capital lords seem to reaffirm that baroque fitted in very harmoniously there.

Nyasvizh was amazing and captivating. For about seventy years one of Belarus' first theatres performed its plays in the

Castle. A lot of drama actors, musicians, solo and choir singers received their training in Nyasvizh. They also had a chance to have trainingships abroad.

High-ranking guests of the Castle would be ceremoniously welcomed to its wonderfully furnitured halls — Royal Hetman's, Marble, Hunter's and others. The local picture gallery counted around a thousand portraits. A huge collection of Slutsk waist-bands was displayed in the Hetman's hall. Along with twenty thousand book volumes, old printed materials and manuscripts, the local library held half-size statues of old-time philosophers made of porcelain at the local factory in Sverzhan. Nyasvizh was also known as a place with well-developed artistic metal founding. Too bad, more than ten beautifully decorated cannons cast at the end of the 16th — early in the 17th centuries made the glory of Warsaw, Stockholm and St. Petersburg. One of the remaining sights is a hundred-year-old park, with different maple species numbering a dozen.

Yet, Nyasvizh might be very attractive when it is clad in a beautiful historical and cultural attire, but it never misses the chance of trying on modern garments consisting of spiritual traditions carried on by its loyal citizens. The first name that should be mentioned is Mikhal Seuruk, the artist, who lived and worked all his life in Nyasvizh and was able, even under the totalitarian regime, to create a self-made school of painting. Another name worth mentioning is Pauliuk Pranuza whose poetry lends additional charm to the town's image. True, nearly every other person living in Nyasvizh is either an artist, a poet or a craftsman. Shoulder to shoulder with artists and craftsmen there worked journalists as well, among whom was Valyantsin Zhdanowich, the master of photography whose contribution to this album has been enormous. Unfortunately, the album saw the light after the author's death.

The future of Nyasvizh looks certain and bright. The town that has stood the test of time and, having faced so many challenges, retained most of its individuality, deserves to be worshiped by the coming generations like a sacred place. The state government allocates considerable funds to keep the historical town in good repair. Nyasvizh has acquired the status of a national history-and-culture preserve with a peculiar structure of a museum type.

*Valery Dranchuk*

*pages*

17
Halfway between Garadzeya and Nyasvizh there is a wonderful natural relic — a pine and an oak grow from the same root.
20
An etching by Tamash Makouski. Early 17th cent. The panorama of Nyasvizh.
A post-card with a general view of Nyasvizh. Early 20th cent.
21
The Slutsk Gate (1690). Baroque architecture monument.
22
The Benedictine catholic church and the monastery. Baroque architecture monument. Built in 1590—1596.
23
Samples of artistic glass and porcelain produced at Radziwill factories.
24
Entrance to the garden near the Benedictine monastery.
26—31
The Great Catholic Church. Baroque architecture monument.
32
Marble slab with a portrait of poet-democrat Wladislaw Syrakomlia. It was erected in 1902, forty years after the poet's death.
33—43
The inside of the Great Catholic Church.
44—45
Detail of dalmatics. Ornaments.
Locally made art pieces (18th cent).
46—47
The Great Catholic Church tower.
48
Former Radziwills' office.
"Gipsy" house.
49
Simon Budny — one of the country's first printers. In 1562, in Nyasvizh he published "Catechism", the first book in the Belarusian language.
Left — a park of those days.
50
A bronze monument to Simon Budny opened in 1982 (sculptor S. Garbunova).
52
A market house is a unique sample of an urban dwelling of the first half of the 18th century with a baroque facade.
The city hall is one of the oldest of its type in Belarus. Built after 1586.
54—55, 58—63, 65
In the Nyasvizh parks.
56
A memorial stone to mark 25 years since the park was begun by Maria de Castelian, princess Radziwill.

57

A two-hundred-year-old poplar.

64

The granite obelisk "Marysin. 1898".

67

General view of the Castle in the etching by N. Orda. The Castle viewed from the Ivan Pond. Artist S. Golz.

68—77

The Castle surroundings.

78

The bridge and the entrance gate. Photographed in the early 20th century.

80

Detail of an old baroque well with forged parts.

81—85

The palace-and-park complex.

87

Detail of the forged top on the entrance gate. The Castle facade in the early 20th century (photo).

88—89

In the Castle lounge.

90

A stove. Late 18th century.

93

A fire-place in the dining room as it looks today and in the picture of the early 20th century.

A stove. Late 18th century (right side).

94—97.

Details of Slutsk waist-bands. 18th — early 19th centuries.

98

Stanislaw Kazimierz Radziwill (1648—1690).

99

Elisabeth Radziwill (b. 1585).

100

Katarzyna and Maria Radziwill. 1646.

101

Yuri Radziwill (1480—1541).

102—111

Views of the Nyasvizh Castle.

Dopóki miasto zachowuje chociaż jedną cechę swojej młodości, dopóty nie ulega starości. Dlatego też Nieśwież wygląda młodzieńczo bez względu na minione stulecia.

Wśród mieszkańców tego miasta dawno żyje popularne powiedzonko, że w Nieświeżu jest jak w Paryżu.

W Paryżu nie byłem, ale kiedy niekiedy jadę do Nieświeża, żeby upoić się wrażeniami, odświeżyć, odczuć powab Europy i... jak gdyby zrzucić z siebie brzemię lat.

Nieśwież jest jednym z najstarożytniejszych osiedli na Białorusi. Wspomnienia kronikarskie o nieświeskim księciu Jerzym, który zginął w 1224 roku w bitwie z Tatarami nad rzeką Kałką, dają podstawę do mniemania, że juz w XIII wieku Nieśwież był stolicą kiążęcą.

Około roku 1496 miasto przeszło z rąk książąt Nieświeskich na własność słynnego rodu Kiszków. Prawdopodobnie w 1533 roku Anna Kiszka wychodzi za mąż za Jana Radziwiłła (Brodatego) i miasto przechdzi do rodu Radziwiłłow, staje się stolicą, jako centrum bajecznie bogatego dworu.

Pierwszy właściciel Nieświeża z Radziwiłłow Jan Brodaty zbudował twierdzę, z wałem fortecznym dookoła miasta. Jego syn, Mikołaj Czarny na starożytnym grodzisku wybudował pałac drewniany. Budownictwo murowanego, bardziej niedostępnego, rozpoczęto później, za czasów Mikołaja Sierotki — syna Mikołaja Czarnego.

Z każdym rokiem miasto nabierało coraz więcej uroku, a zamek książęcy był stopniowo ulepszany, wzbogacał się, nabierał mocy, splendoru.

Miasto i pałac stale służyły przykładem krzewienia kultury i oświaty. Tutaj naprzykład Szymon Budny w 1562 roku nadrukował "Katechizis" — pierwszą książkę w jezyku białoruskim.
W 1586 roku Nieśwież otrzymuje prawa magdeburskie.

Zaznał Nieśwież i smutnych czasów. 1654, 1706, 1768, 1771, 1792, 1812, 1919, 1941 — to tragiczne lata w historii miasta. Odnowienie okazałości elewacji frontowych, restauracja w krótkim okresie czasu blasku i rozkoszy wnętrza było możliwe tylko dzięki zamożnosci Radziwiłłów, ich dążeniu do rozkwitu swojej stolicy. Wszystko, co się tylko przyżywało i kwitło w Nieświeżu, jest dobitnym świadectwem talentu tego rodu z całą plejadą osób, które na wszelki sposób dążyly do przekształcenia świata bogactwa w świat piękna, nadając swojej ordynacji sławę ośrodka kulturalnego na poziomie europejskim.

"Maleńki Paryż" zadziwiał świat bodaj nie mniej od wielkiego. Nieśwież nazywano równiez nieukoronowaną stolicą Wielkiego Księstwa Litewskiego.

Ale czym, jaką trescią powinna być napełniona chwila obecna w naszych nieustannych błąkaniach w resztkach dawnej świetności? Dwudzieste stulecie, jak wiadomo, nie szczędzilo, a coraz więcej zabierało. Ofiarą najazdów i, przede wszystkim, ogólnego nihilizmu panującej bezdusznej ideologii, stały się setki pomników historycznych. Moloch barbarzyńskiego zniszczenia nie był powstrzymany i w latach siedemdziesiątych.

I, mimo wszystko, "Małemu Paryżowi" było przeznaczone wyżycie. Ocalały budynki, landszaft. Do starożytnego centrum miasta nie dotarły ręce mnóstwa amatorów przeróbek, przebudowy. Fachowcy twierdzą, ze Nieśwież jest unikatem o wielkim znaczeniu kulturalnym. Przecież tutaj w niezwykle krótkim okresie czasu (ostatnia ćwiartka XVI stulecia) została zrealizowana barokowa koncepcja "idealnego" schematu miasta.

Dźwięki organów kościoła farnego jak gdyby przywracają z głębi czasów imię genialnego architekta włoskiego Bernardoni, który wysiłkiem miejscowych mistrzów stworzył takie arcydzielo w ciągu dziesięciolecia (1584—1593). To jest pierwszy budynek na Białorusi zaprogramowany w stylu baroka. Ustrojenie swiątyni jest uroczyste, wytworne. Oczarowują freski i malowidła, bogactwo rzeźby, plastyki architektonicznej, urzekają niezliczone kompozycje dekoracyjne wnątrzy. A na dole w grobowcu rodzinnym spoczywają prochy książąt Radziwiłłów.

Styl barokowy murowanych budynków Nieświeża (nie tylko zamek, kościół farny, ale również Brama Słucka i wieża klasztoru benedyktynek, i "Dom na rynku") niesie w sobie cechą epoki, odzwierciadla w architekturze nastroje społeczne, zwłaszcza życie intelektualne.

Oznaki pogody i radości, pełni życia intelektualnego, jak gdyby potwierdzają, że styl barokowy był tutaj najbardziej organiczny. Nieśwież zadziwiał i zachwycał. Tutaj prawie siedem stuleci odbywały się widowiska i spektakle w jednym z pierwszych teatrów na Białorusi. Miasto stało się ośrodkiem szkolenia aktorów dramatycznych, muzykantów, śpiewaków, chórzystów. Wiedzę sceniczną adepci sztuki osiągali również za granicą. Przed bywalcami zamek otwierał gościnnie podwoje sal z przeróżnym dziwnym sprzętem — Królewskiej, Hetmańskiej, Marmurowej, Myśliwskiej oraz innych. Około tysiąca portretów i obrazów liczyła galeria sztuki. Kolekcja pasów słuckich upiększała salą Hetmańską. Miejscową biblioteką uświetniały nie tylko dwadziescia tysięcy ksiąg, rękopisów i starodruków, lecz również popiersia filozofów, wykonane na manufakturze w Swierżeniu. Nieśwież był również znany jako miejsce sztuki odlewniczej. Niestety, ponad dziesięć armat, kunsztownie ozdobionych, okazało się w Warszawie,

Sankt-Peterburgu, Sztokholmie. Pozostał na swym miejscu stuletni park, gdzie samych tylko klonów jest prawie dziesięć gatunków.

Powabny Nieśwież, obdarzony bogatą historią i dziedzictwem kulturalnym, dzięki przychylnosci swoich współczesnych mieszkańców i obecnie przymierza strój tradycji duchownych. Na pierwszym miejscu można postawić imię Michała Sewruka, który mieszkając i pracując tutaj do samego zgonu, nawet w czasie ideologii totalnej zdołał realizować dobrą szkołę malarstwa. Drugie imię — Pawluk Pranuza — dopełnia obraz miasta obecnością muzy poezji. Zresztą, powiadają, że w Nieświeżu ledwie nie każdy drugi mieszkaniec jest z natury artystą, poetą, twórcą.

Swoją energią twórczą Nieśwież zasila nie tylko mieszkańców miasta. Tutaj z natchnieniem pracowało wielu poetów, plastyków, artystów. W tej plejadzie jest uplasowany i dziennikarz-fotografik Walenty Żdanowicz. (Nawiasem mówiąc, takie nazwisko jest spotykane wśród przydwornych architektów Radziwiłłów). Mianowicie z jego uzdolnionych rąk Szanowny Czytelnik otrzymuje ten album. Niestety, już po śmierci autora.

Dla Nieświeża przewidziana jest również i godna przyszłość. Miasto, które przetrwało w żywiole zniszczen i dewastacji, zachowując znaczną część swojej doskonałości, w pełni zasługuje tym samym u potomnych na taki szacunek, jakim się cieszą bodaj tylko świątynie.

Obecnie w skali międzynarodowej idzie opracowanie projektu stworzenia tutaj rodzimego rezerwatu historyczno-kulturalnego "Nieśwież" o samoistnej strukturze muzealnej.

"Mały Paryż" ma się stać ośrodkiem turystyki krajowej i międzynarodowej z całym zespolem objektów: galerią sztuki narodowej, teatrem dramatycznym, opery i baletu, biblioteką, ekspozycjami muzealnymi, archiwum.

Miasto-sad w okresie zbliżającej się osiemsetletniej rocznicy swego istnienia będzie obchodzić święto kolejnego odrodzenia.

*Walery Dranczuk*

st.

17
Przy drodze Haradzieja-Nieśwież znajduje się niezwykły pomnik przyrody: dąb i sosna stojące w objęciach.
20
Grawiura Tomasza Makowskiego. Początek XVII stulecia.
Pocztówka z ogólnym widokiem Nieświeża.
21
Brama Słucka. 1690. Pomnik architektury baroku.
22
Kościół i klasztor Benedyktynek. Pomnik architektury baroku. Zbudowany w 1590 — 1596 latach.
23
Wzorce wyrobów artystycznych ze szkła i porcelany z manufaktury Radziwiłłów.
24
Wejście do sadu klasztoru Benedyktyńskiego.
26—31
Kościół farny. Pomnik architektury baroku.
32
Płyta marmurowa z portretem poeta-demokrata Władysława Syrokomli, wbudowana w 1902 roku w czterdziestą rocznicą jego śmierci.
33—43
Wnętrze kościoła farnego.
44—45
Fragment dolmatyki. Ornat. Wyroby XVIII st. wytwórczości miejscowej.
46—47
Wieża kościoła farnego.
48
Dawna kancelaria książąt Radziwiłłów.
"Cygański" dom.
49
Szymon Budny. Jeden z pierwszych drukarzy na Białorusi. W 1562 roku wydał w Nieświeżu "Katechizis" — pierwszą książkę w języku białoruskim.
Z lewej strony ówczesna karykaturka na Budnego.
50
Pomnik z brązu Szymona Budnego otwarty w 1982 roku (rzeźbiarz S. Garbunowa).
52
"Dom na rynku" — unikalny wzór mieszkania miejskiego pierwszej połowy XVIII st. z fasadą w stylu barokowym.
Ratusz — jeden z najstarożytniejszych na Białorusi. Zbudowany po 1586 roku.
54—55, 58—63, 65
W parkach Nieświeża.

56
Kamień ustawiony w 25 rocznicę założenia parku przez Marię de Kastelyn, księżnę Radziwiłłównę.

**НЯСВІЖ**

*Альбом*

Укладальнік Мікалай Дзелянкоўскі
Аўтар тэксту Валерый Дранчук

Мінск, выдавецтва "Беларусь"
*На беларускай, англійскай і польскай мовах*

Пераклад на англійскую мову
У.А. Чарнышова
Пераклад на польскую мову
П.Ф. Стэфановіча

Рэдактар Т.І. Улевіч
Мастак А.А. Жданоўская
Мастацкі рэдактар Т.А. Мельянец
Камп'ютэрная вёрстка М.І. Лазука
Аператар Т.А. Касцяневіч
Карэктар Ю.Г. Фядотава

Падпісана да друку з арыгінала-макета 28.02.95.
Фармат 60x90 1/16. Папера мелаваная.
Гарнітура Таймс. Афсетны друк.
Ум. друк. арк. 8,0. Ум. фарб.-адб. 32,75.
Ул.-выд. арк. 9,61. Тыраж 5000 экз. Зак. 715.

Ордэна Дружбы народаў выдавецтва "Беларусь"
Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь.
Ліцэнзія ЛВ № 2.
220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку.
220115, Мінск, вул. Каржанеўскага, 20.

